www.nv-online.info

№ 34 (4183)

3 мая 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».**

**МІНСК, 1 МАЯ 2017 ГОДА**



Злева зверху – камуністы ўскладаюць кветкі да помніка Леніну.

Злева знізу – несанкцыянаванае шэсце з Кастрычніцкай плошчы да Чырвонага касцёла.

Справа зверху – афіцыйныя прафсаюзы ў парку Перамогі.

Справа знізу – пляцоўка ў парку Дружбы народаў, на якой адмовіліся правесці мітынг дэмакратычныя прафсаюзы.






АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

# Героі без… перамог

Так, іх, герояў без… перамог, цяпер у нас нямала.

Чалавек не здзейсніў ніякага больш-менш мужнага ўчынку, не дасягнуў вышынь у звычайнай працы, а пра яго мільён узгадак на сайтах, па радыё, на тэлеканалах, у незалежных газетах. Вунь колькі сказана-пераказана ў апошнія дні пра таго ж Мікалая Статкевіча. А ў чым яго "свежая" заслуга? Толькі ў тым, што ў чарговы раз трапіў за краты. Зараз на 5 сутак.

Героем без… перамог на пачатку тыдня стаў і Аляксандр Ярашук, старшыня Беларускай канфедэрацыі дэмакратычных прафсаюзаў. Мабыць, і сам такой славы не чакаў. Дастаткова было заявіць, што ён і яго паплечнікі адмаўляюцца ад правядзення першамайскага мітынгу ў парку Дружбы народаў, як ледзь не ва ўсёй інтэрнэт-павуціне замільгала яго прозвішча.

Бясплатны піяр! На голым месцы! І што кідаецца ў вочы – у дадзенай сітуацыі раскрутка дэмлідараў адбываецца дзякуючы чыноўніцкай дурасці. Калі Статкевічу не даруецца любое парушэнне закона, то гэтыя пяць сутак ён мог адсядзець у ізалятары на Акрэсціна і тыдзень, і два таму – пакаранне яму вынесена за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі, якая была праведзена даўным-даўно. Дык не – трэба кінуць за краты напярэдадні 1 Мая, каб не з'явіўся са сваімі прыхільнікамі ў гэты дзень на Кастрычніцкай плошчы. А калі б з'явіўся? Не думаю, што палыхнуў бы Майдан. У рэшце рэшт праваахоўныя органы навучыліся прымаць прэвентыўныя меры – затрымліваць людзей на падыходзе да месца несанкцыянаванай акцыі.

Не магу сказаць, у чым тут выйгрыш пагоннікаў спадара Шуневіча, а вось што ў каторы раз Мікалай Статкевіч стаў героем без… перамог – факт відавочны! Уся яго мужнасць у дадзеным выпадку абмежавалася толькі тым, што ён звярнуўся з заклікам да сваіх аднадумцаў прыйсці 1 Мая на цэнтральную плошчу ў Мінску, каб разам, нягледзячы на несанкцыянаванасць (заяўку ў Мінгарвыканкам ён нават не падаваў), адзначыць Дзень салідарнасці, выказацца наконт палітыкі дзеючых улад. Не адчуў на спіне дручкоў амапаўцаў, не падыхаў брудным пылам ад падлогі аўтазакаў – і на табе, герой дня! Як жа, змагара за народнае шчасце пазбавілі волі аж на 5 дзён! Як быццам ён не ведаў, што ўлады не даруюць яму нават малейшага парушэння закона. А калі быць шчырымі, то закон Мікола ўсё ж такі парушыў, удзельнічаючы ў несанкцыянаванай акцыі.

Можна да хрыпаты спрачацца: добрую палову законаў трэба нам мяняць ці толькі трэцюю частку? Не выключаю абодва варыянты. Але ж пакуль яны, законы, існуюць – хочаш не хочаш, а неабходна выконваць. І мяняць іх лепш па дэмакратычных правілах. А гэта ўжо ўдзел не толькі купкі апазіцыянераў, суб'ектыўнасць якіх іншы раз можа прывесці да непажаданых вынікаў, а ўсяго народа. Зможа ён выбраць дэмакратычны парламент, а заадно і дэмакратычнага прэзідэнта – будуць у нас і дэмакратычныя законы.

Але працягну думку, з якой пачаў артыкул, і зноў узгадаю Аляксандра Ярашука. Яго, дзякуй Богу, не запіхнулі ў ізалятар, ён не даў для гэтага ні малейшых падстаў. Пазбег сутыкнення з чалавечкамі ў масках, як і з Фемідай. І, магчыма, правільна зрабіў. Толькі пры гэтым застаецца без адказу адно пытанне: адмовіўшыся ад правядзення майскага мітынгу ў парку Дружбы народаў, скажыце, ён як лідар дэмакратычных прафсаюзаў прадэманстраваў сілу ці, наадварот, бяссілле? Дарэчы, як і ўсе астатнія, хто падпісваў заяву ў Мінгарвыканкам на дазвол акцыі?

У інтэрв'ю А.Ярашук заявіў, што адмова чыноўнікаў у правядзенні шэсця ад Акадэміі навук да плошчы Бангалор нічым не матываваная, а *"без маршу мітынг выглядае першапачаткова правальным"*. Ой, хітруеце, Аляксандр Ільіч… Скажыце, калі ласка, чаму акцыя, якая магла б адбыцца ў парку Дружбы народаў, стала б правальнай? Правялі ж афіцыйныя прафсаюзы мітынг у парку Перамогі. І без шэсця. Праўда, як мне падалося, і без шараговых членаў прафсаюзаў. На фота- і відэарэпартажных кадрах я не заўважыў рабочых трактарнага альбо аўтамабільнага заводаў, як і прадстаўнікоў навуковай эліты, дзелавых колаў. Вось на здымку дзяўчаты з кепкамі на вушах – мабыць, актывісткі-БРСМаўкі са студэнцкага прафкама, а за імі – малойчыкі з лозунгам "Пятую калону – у пяты вугал" стопрацэнтна не з рабочага класа.

Як небезвядомы Міхаіл Орда салідарызаваўся пазаўчора з беларускім і сусветным пралетарыятам – асобная тэма. Я ўсё ж такі вярнуся да паважанага Аляксандра Ярашука. Што было важней – моўчкі пратопаць нейкіх паўтара кіламетра да плошчы Бангалор ці сабрацца ўсім ў парку Дружбы народаў і правесці масавы мітынг? З агучваннем пакета патрабаванняў да ўлад, з прыняццем рэзалюцыі па сённяшняй сітуацыі ў краіне, з абвяшчэннем дзеянняў дэмакратычных прафсаюзаў на бліжэйшую перспектыву. На жаль, ніхто нічога не пачуў. Адмовай ад правядзення мітынгу вы, Аляксандр Ільіч, і вашы сатэліты толькі аблегчылі 1 мая працу праваахоўнікам і камунальным службам. Чулі б вы, як вас за гэта крытыкаваў на Кастрычніцкай плошчы лідар Беларускага Дэмакратычнага Кангрэса Уладзімір Някляеў!..

Можна здагадвацца пра сапраўдную прычыну адмовы дэмпрафсаюзаў ад правядзення мітынгу ў парку Дружбы народаў. Як і пра тое, якую сілу сёння яны наогул уяўляюць. Апошняе, я мяркую, з'яўляецца самым вялікім тормазам на шляху змагання за правы чалавека, за правы тых, хто працуе на заводах і фабрыках, у рудніках і на будоўлях, на палетках і фермах, у лабараторыях і на транспарце, у бальніцах і ў школах… Без людской кансалідацыі дабіцца саступак ад улад, разлічваць на сапраўды дэмакратычныя выбары нерэальна. І аб'ядναць масы, згуртаваць іх у вялікую сілу – галоўная місія прафсаюзаў. Калі б у тым жа парку Дружбы народаў сабралася 150–200 тысяч чалавек, то, як неяк выказаўся А.Лукашэнка, там былі б усе яго вышэйшыя чыноўнікі. І з'явілася б спадзяванне на тое, што лёс краіны ў нас можа вырашыць народ, а не тыя, хто грэбуе ім.

Можна раз-пораз трапляць за калючы дрот і адчуваць сябе героем. Можна рабіць гучныя заявы і ставіць на гэтым кропку. І ў адным і ў другім выпадку публічная слава мае кароткі тэрмін. Героі без… перамог – віртуальныя славутасці. Няхай не крыўдзяцца на мяне Мікалай Статкевіч і Аляксандр Ярашук, але ім, як і іншым лідарам-дэмакратам, неабходна аб гэтым помніць кожны дзень. І працаваць не на персанальную публічную славу, а на агульныя пераможныя вынікі. Каб побач з вамі, шаноўныя, сталі тыя ж 150–200 тысяч чалавек, трэба, прабачце за банальнасць, не адзін год працаваць дзень і ноч з людзьмі. З людзьмі, з кожным чалавекам асобна! Там, дзе яны жывуць, там, дзе яны працуюць.

Згодны: пры аўтарытарным рэжыме гэта амаль што фантастычная задача. Але ж, спадарства, пад ляжачы камень вада не цячэ. А казка, бывае, часта становіцца былю.

**Аркадзь МІЛЬКОЎСКІ.**

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# Преступление, где все – только жертвы

Трагедия в Слониме похожа на страшный киносюжет: скандал, нападение, убийство 17-летним внуком бабушки и дедушки, мелодраматическое отрезвление у ног священника. Арест.

Под стражу взят парень, которого подозревают в убийстве своих родных – бабушки и дедушки. Да, опять молодой человек, опять ученик гимназии, опять убийство с особой жестокостью. Сначала парень отрицал свою вину. И у священника, к которому прибежал под утро в храм, тоже говорил, что на дом напали чужие люди, грабители. Но следствие все же взяло под стражу Александра – значит, против него есть серьезные улики, доказательства.

Не будем пока вдаваться в подробности уголовного дела, тем более предвосхищать решение суда. Но все-таки давайте присмотримся к действующим лицам трагедии, двое из которых, к большому горю, насильно лишены жизни.

Бабушка, дедушка, внук. Семья? Несомненно. Но… Есть какая-то горчинка в этом треугольнике, правда? Мама давно живет за границей с новым избранником, папа – в Минске, но почему-то тоже без сына… Думаю, на мальчика иногда накатывало ощущение брошенности. Возможно, по мере взросления он тайно и болезненно переживал его. Возможно, у него, подростка, возникало порой даже чувство самоотрицания: кто я? Зачем я? Для кого я? Все-таки бабушка и дедушка – это родственники «второй очереди». Родные люди, но – через интервал. Это искусственно созданное расстояние между родителями и детьми особенно ранит, по-моему, когда первые живы-здоровы, но ты не с ними. Почему? Причин десятки, но смысл один – ты им не нужен. Потому что обуза для мамы в Арабских Эмиратах, лишняя забота для папы в Минске. У родителей жизнь уже новая, и свидетелей старой жизни – хоть ты и родное дитя – они в свое будущее не взяли.

Хотя взрослым часто кажется, что, вручая ребенка бабушке и дедушке, они хорошо его пристроили. Совесть как бы спокойна. Скорее всего Саша действительно ни в чем не нуждался. Погибший дедушка Леонид Богдан был профессиональным скульптором, известным человеком в городе, имел заказы, много работал. Они в Слониме жили в хорошем собственном доме. Наверное, в семье не было острых материальных проблем. Но, видимо, и гармонии не было тоже. Бабушка и дедушка при всей любви не могут занять место мамы и папы – природа отвела им свои важные роли. А подмена – она и есть подмена, ни к чему хорошему не ведет.

Я знаю истории многих уже взрослых людей, так и не простивших своим родителям их предательства – именно так жестоко судили они о своем детстве без отца и матери, без их присутствия в своей детской жизни. Один человек с каким-то, мне показалось, даже удовлетворением вспоминал: «Мамка с папкой уехали на Север за длинным рублем, а меня сбагрили в деревню к бабке с дедкой. Я убегал из дома, чтобы поплакать маленькой елочке, она была моя первая подружка. Я рос один, в первый класс пошел, и только зеленая елка знала, как мне жилось одиноко. Вдруг через годы – приезжают, являются... Батька на руки меня берет, думает, что я еще маленький, а я ему как стукну в щеку, вырвался и бежать. Не мог простить… Вспоминаю – и сейчас не могу…»

Часто женщины, вступая во второй брак, легко расстаются с сыновьями, пристраивая их (другого слова не подберу) на попечение своих родителей: новый муж ревнует к ребенку. Однажды была свидетелем такой сцены: малыш от первого брака бегал по квартире, как вдруг раздался звонок – неожиданно вернулся хозяин дома. Что тут было с женщиной… Разволновалась, раскраснелась, будто ее уличили во лжи. Не знала, куда ребенка деть, желая его чуть ли не спрятать, только чтобы не рассердить нового супруга. Вот так женщины предают мальчиков, подумалось мне тогда. А они потом, вырастая, предают женщин... Мы с товарищами, неожиданные свидетели ситуации, опустили, помню, глаза от неловкости: знать о чужих скелетах в шкафу тоже не большое удовольствие.

А воспитывать внуков тяжелее, чем детей, – это вам всякий подтвердит. По большому счету настоящее воспитание – это дружба с младшим человеком. А здесь разница в возрасте… Физиологию не обманешь. Плюс у дедушки и бабушки развивается гиперответственность за внуков – им доверили дитя! Поэтому родные «второго порядка», не замечая того, излишне плюсуют – пережимают палку. Человек растет, а он для них всегда маленький, хочется всю его жизнь вести под контролем. С чего начался скандал в семье Леонида Богдана? Дедушка и бабушка ругали внука за курение, приняв электронную сигарету за какой-то новый наркотик. И то сказать, дымит эта гадость, как первый паровоз Черепановых. Но дело не в деталях, а в том, что внук взрослел и выходил, видимо, из повиновения. Родные не справлялись и делали, что считали правильным: зажимали свободу подростка. И произошел дикий взрыв... Животная ненависть захлестнула подростка.

Судя по сообщениям, задержанный начал давать показания и рассказал, как расправлялся со своими родными. Бабушку убил ножом быстро, а дедушку сначала лишь ранил. Бедный человек взывал о помощи, просил вызвать «скорую», но внучок сходил в сарай за топором и прикончил раненого. А потом пошел в Свято-Троицкий собор. Но правду там не рассказал. Лгал священнику о каких-то грабителях…

Тяжело думать, тяжело писать о случившемся. Парню грозит 15 лет лишения свободы. А его родителям, где бы и с кем бы они теперь ни жили, – лишения покоя на всю жизнь. Потому что есть преступления, где все – только жертвы.

СЛОВА ФЕМІДЫ

Учора судовы канвеер у Мінску круціўся вакол некаторых арганізатараў і ўдзельнікаў несанкцыянаванага мітынгу на Кастрычніцкай плошчы і далейшага шэсця яго ўдзельнікаў да Чырвонага касцёла.

Лідары Беларускага Дэмакратычнага Кангрэса запрасілі людзей сабрацца 1 Мая ў цэнтры сталіцы. Але перад гэтым нават не падалі заяўку ў Мінгарвыканкам на атрыманне дазволу аб правядзенні акцыі. Таму праваахоўныя органы вырашылі прыцягнуць актывістаў да адказнасці за парушэнне закона "Аб масавых мерапрыемствах".

## Максіму Вінярскаму – 15 сутак

Актывіст кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Максім Вінярскі судом Цэнтральнага раёна Мінска прыгавораны да 15 сутак адміністрацыйнага арышту. Ён прызнаны вінаватым па ч.3 арт.23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (паўторны на працягу года ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве). Прысуд вынес суддзя Міхаіл Хома.

Пасля абвяшчэння прысуду Вінярскі заявіў у зале суда, што абвяшчае галадоўку ў знак нязгоды з судовым вердыктам. Актывіст заявіў, што будзе галадаць увесь час адбыцця адміністрацыйнага арышту.

Вінярскі быў затрыманы пасля акцыі каля свайго дома. Яго спачатку адвезлі ў Цэнтральнае РУУС, дзе, як ён паведаміў журналістам, ніякіх папер яму падпісваць не давалі. Затым на яго надзелі кайданкі і адвезлі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на вуліцы Акрэсціна. Актывіст таксама паведаміў, што ў машыне па дарозе ў суд яму прапаноўвалі азнаёміцца з пратаколам і падпісаць яго. Аднак ён не стаў гэтага рабіць, бо лічыць дзеянні міліцыянераў незаконнымі.

## Паўлу Севярынцу – 15 сутак

Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Павел Севярынец асуджаны на 15 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у двух несанкцыянаваных вулічных акцыях – 1 мая на Кастрычніцкай плошчы і 3 сакавіка ў Курапатах. Такое рашэнне прыняла 2 мая суддзя суда Цэнтральнага раёна Мінска Вікторыя Шабуня.

Севярынец сваёй віны не прызнаў. Паводле яго слоў, сведкі, якія прадстаўляюць АМАП ГУУС Мінгарвыканкама, давалі лжывыя паказанні. У прыватнасці, два супрацоўнікі АМАПа сцвярджалі, што асабіста затрымлівалі Севярынца 1 мая ў 14.30 на ўваходзе ў станцыю метро «Кастрычніцкая». Аднак, як заявіў палітык, ён быў затрыманы пасля 15.00 на выхадзе са станцыі метро «Пушкінская».

Падчас пасяджэння Севярынец прапанаваў Шабуні зрабіць «самы годны і маральны ўчынак у сваім жыцці – звольніцца з пасады суддзі, каб не ўдзельнічаць у незаконных працэсах». Пасля таго як прысуд быў вынесены, асуджаны палітык са шкадаваннем канстатаваў, што суддзя Шабуня не скарысталася гэтым выпадкам.

Адразу пасля вынясення рашэння Паўла Севярынца адвёў канвой, яго адправілі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна.

**Сяргей КАРАЛЕВІЧ, БелаПАН.**

## Уладзімір НЯКЛЯЕЎ: «Пакуль на волі…»

***Ці ёсць нейкія прэтэнзіі ў праваахоўнікаў да яшчэ аднаго арганізатара несанкцыянаванага Маршу салідарнасці – Уладзіміра Някляева?***

Як вядома, ён выступаў падчас імправізаванага мітынгу на Кастрычніцкай плошчы. Браў у рукі гукаўзмацняльнік і ля Чырвонага касцёла. Які лёс чакае паэта і палітыка?

– *За апошні месяц мяне судзілі тройчы, праўда, ні на адзін суд я не хадзіў,* – каменціруе сітуацыю Уладзімір Някляеў. – *На двух судах мне прысуджалі штрафы па 50 базавых велічынь, на трэцім – 5 сутак арышту. Так што ў любы момант да мяне могуць прыйсці і адвезці ў кутузку…*

*А што да акцыі 1 Мая... Я зараз у паліклініцы, і ў полі майго зроку ніякіх "варанкоў" не назіраецца. Але ж хто іх ведае, як яны будуць сябе паводзіць далей. Скажу шчыра: я за імі ўжо не сачу, мяне не цікавіць: дзяжурыць нехта пад маімі вокнамі ці не. У любы момант могуць прыехаць і затрымаць, а высвятляць, калі гэта станецца, не хачу. Пакуль на волі…* – сказаў учора пад вечар У.Някляеў.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## У Міністэрства замежных спраў – новая эмблема

*Яе аўтар – сябра Геральдычнага савета пры прэзідэнце і Міжнароднага саюза дызайнераў* ***Віктар Ляхар.***

Эмблема мае круглую форму. Па краі ідзе сіні надпіс, пасярэдзіне – арнамент у колерах беларускага сцяга, а ў самым цэнтры – герб.

Лічыцца, што сіні колер – адзін з традыцыйных у сімволіцы дыпламатычнай прафесіі.

ДА ВЕДАМА

## З 50-працэнтнай зніжкай

З 1 мая па 30 верасня пенсіянеры могуць ездзіць у цягніках рэгіянальных ліній эканом-класа па льготным тарыфе – ім можна плаціць 50% ад кошту праезду.

Увага: скарыстацца льготай змогуць мужчыны старэйшыя за 60,6 года, а жанчыны – старэйшыя за 55,6 года. А каб купіць квіток са зніжкай, трэба прадъяўляць у касах арыгіналы пенсіённых пасведчанняў.



ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

# Почти по Чехову

Пресс-служба УВД Гомельского облисполкома распространила информацию о задержании 32-летнего гомельчанина, перевозившего ночью в микроавтобусе 26 крышек от канализационных люков. Событие в масштабах нашей не слишком большой, но, по мнению власти, вполне социально ориентированной страны, вероятно, не дотягивает до газетной полосы – но есть, как говорится, одно «но».

Я помню в родном Гродно знаменитые крышки на канализационных люках с надписями на польском языке «Magistrat Grodzienski»: они лежали на мостовых с довоенных времен и никому не мешали. Мешает, как известно, не крышка, а как раз ее отсутствие. Крышка не только преграждает путь запахам из городской клоаки, но и не дает людям ломать ноги и руки, а детям – так и вовсе проваливаться.

Я не знаю, сколько канализационных люков в Гомеле – втором по численности населения городе Беларуси. Наверное, очень много. Похититель, вероятно, исходил из того, что одной крышкой больше, одной меньше – может, никто и не заметит. Совершенно в духе рассказа Антона Чехова «Злоумышленник»: там, помнится, мужичок свинчивает гайки с рельсов – причем свинчивает не просто так, а «с понятием» – чтобы рельсы не сваливались со шпал. Да и не он один – вся деревня гайки свинчивает, с того и живет.

Не стоило бы об этом писать, но я – человек не слишком молодой. И помню, как в конце 1980-х – начале 1990-х годов массово начали срезать провода, свинчивать таблички с медными буквами, спиливать надгробные монументы. Могли уволочь ограду с могилы. Эшелоны с цветными металлами шли в известном всем направлении, а деньги за внезапно обнаруженный предприимчивыми «злоумышленниками» утиль позволяли держаться на плаву целым семьям.

Когда 32-летний лоботряс делает бизнес на крышках от канализационных люков, он наверняка представляет себе возможные последствия. Бежит ребенок. Падает в люк. Идет слабо видящая старушка. Падает в люк. А если люк не посреди тротуара, а совсем даже на проезжей части, то нецензурные выражения водителя, чья машина колесом угодит туда и застрянет, долго будут висеть в воздушном пространстве, смущая интеллигентных прохожих.

Но если он это представляет, то – почему так поступает?

Окончательный и наиболее точный ответ, видимо, можно будет получить после суда, если он состоится. Но я имею право и на свою версию.

Пошел на преступление этот 32-летний гомельчанин, возможно и из-за того, что, как и в конце 1980-х – начале 1990-х, ему хочется есть. И кормить семью, если таковая имеется в наличии. Ничего, как говорится, личного: не стал бы он забавляться, тягая на себе пудовые чугунные «блины», если бы у него был хороший заработок.

Благополучие страны до сих пор держится, возможно, на существовании крупных и средних предприятий, обеспечивающих занятость населения. Но как раз эти предприятия страдают сегодня прежде всего: они первыми утратили привычные рынки сбыта, и им труднее получить инвестиции в необходимых объемах. За последние десять лет многие государственные заводы потеряли до 30–40 процентов рабочих мест. Куда деваться молодому здоровому мужику, который оказался за проходной? В милицию идти? А если он как раз в милицию идти не хочет – не привык дубинкой размахивать, а на кабинетный пост образование не позволяет рассчитывать?

Я вовсе не призываю пожалеть человека, подвергающего реальной опасности жизнь и здоровье жителей Гомеля. И не призываю брать с него пример – упаси Боже! Но сегодня УВД задержало и, возможно, передаст в суд дело на одного такого «злоумышленника». А завтра их в любом случае наберется по стране не менее полусотни: крышки на канализационных люках лежат повсюду, сокращение происходит на всех заводах, так что соблазн последовать его примеру точно есть. Беларусь медленно, но неуклонно уподобляется той деревне, жители которой начинают «с понятием» свинчивать гайки с рельсов, не понимая, что поезд в какой-то момент может с них сойти в результате их активной коллективной деятельности.

А если моя версия чисто виртуальная? Если человек пошел на преступление не из-за того, что дома остались голодные дети, а ради сиюминутной солидной наживы, чтобы завтра иметь покруче машину, пошикарнее квартиру? Что ж, в таких случаях вывод один – получит по заслугам.

ЭКСКЛЮЗИВ

# Людмила КАРПЕНКО: «Стараюсь быть в курсе того, что происходит на Родине…»

*«Народная Воля» поинтересовалась, как живет в Германии семья известного в прошлом политика Геннадия Карпенко.*

– Событий много, но не обо всем, честно говоря, хочется говорить, потому что были не только хорошие новости, но и плохие, – *рассказывает Людмила Филипповна, вдова Геннадия Карпенко*. – Что касается хороших новостей, то я переехала, сейчас живу во Франкфурте.

**– Теперь живете вместе с дочкой?**

– Нет, отдельно. Сын живет в Кёльне, у него двое детей, есть дочка от первого брака, но она осталась в Беларуси. Ей 23 года, закончила университет – пошла по стопам отца и выбрала делом жизни физику-математику. Сейчас работает в институте при Академии наук и преподает физику в музыкальном колледже. Она каждый год к нам приезжает. Все время мы с ней переписываемся и по вайберу, и по WhatsApp.

Моя вторая внучка в этом году заканчивает гимназию, сейчас делает абитур (не знаю, какой аналог в русском языке у этого слова) – в общем, получает аттестат. Здесь немного другая система образования. Учится она хорошо, собирается поступать. Скорее всего, на юридический факультет.

У сына дочка Вера – ее назвали в честь матери Геннадия – учится в гимназии.

**– А сын работает? Помню, у него была какая-то хорошая специальность…**

– Он физик, по второму образованию – экономист. Сейчас совершенствуется в сфере информационных технологий – это более высоко оплачиваемая профессия. Самый маленький внук ходит в детский сад.

В принципе, все нормально.

**– А дочь трудоустроена?**

– Да, она работает в банке.

**– Некоторые эмигранты жалуются, что в чужой стране очень непросто подтвердить свою квалификацию, найти хорошую работу. А у ваших детей получилось и, слава Богу, все как-то удачно сложилось…**

– Это все огромным трудом и потом достигалось. Потому что, в принципе, здесь, если исходить из их устоев жизни, никто никому не нужен. И очень по-разному относятся к русскоговорящим…

**– Но у вас же за эти годы, наверное, немецкий уже свободный?**

– Не скажу, что очень хорошо, но разговариваю. А у детей и внуков немецкий просто прекрасный! Если нужно написать какое-то письмо на немецком, мы обязательно потом даем его внучке – чтобы она ошибки проверила. Для внуков немецкий – родной язык. А русский и белорусский – уже сопутствующие. Мы стараемся дома общаться на русском. Многие подруги даже завидуют внучке, что она хорошо знает русский. Некоторые переселенцы считают, что здесь нужно только на немецком говорить. И потом дети, вырастая, упрекают родителей, что могли бы знать не только немецкий, но и свой родной язык.

На самом деле для детей никакой трудности не представляет знать и два, и три, и четыре языка. Внучка, например, знает и русский, и немецкий, и английский, и французский. Дети в этом смысле развиваются очень быстро.



ИЗ АРХИВА «НАРОДНОЙ ВОЛИ»

*Напомним: Людмила Карпенко с детьми уехала из Беларуси 6 января 2002 года.*
*28 января семья Карпенко подала германским властям документы на получение статуса политических беженцев и 28 апреля его получила.*
*Одно время Людмила Филипповна жила в городе Эсслингене на юге Германии, ее дочь – во Франкфурте, а сын – в Аахене.*
*“Скончался Геннадий Карпенко от кровоизлияния в мозг 6 апреля 1999 года в возрасте 49 лет, – написано в свободной интернет-энциклопедии. – За неделю до этого у политика случился инсульт. Родственники и представители оппозиции сомневаются в естественных причинах его смерти. Смерть политика была неожиданной, так как перед этим он никогда не жаловался на плохое здоровье...»*

Дети и внуки меня очень любят, и я живу ими. И в этом отношении совершенно счастлива.

Что касается здоровья, то, как говорит моя дочка, держимся. Отпуск проводим вместе. В прошлом году ездили в Италию. Както я все время с детьми. Они мне помогают, оберегают…

**– А вы одна живете?**

– Да.

**– Не скучно?**

– Скучно. Но есть, конечно, знакомые… Вообще, весьма непросто найти друзей, на которых можно положиться. А в другой стране, где все нужно начинать с нуля, – тем более.

**– Честно говоря, у меня вопрос предполагал некоторый подтекст. Вы не только умная, но еще и невероятно красивая женщина. Неужели ваша личная жизнь за эти долгие годы совершенно не изменилась?**

– Нет. Ничего в моей жизни не изменилось.

Во-первых, я однолюбка.

А во-вторых, все всегда сравнивается. И сами понимаете, что сравнения не всегда могут быть в пользу нынешних поклонников.

**– Знаю, что вы не теряете связи с Беларусью. Новости наши, наверное, каждый день читаете?**

– Регулярно читаю, да. Стараюсь быть в курсе того, что происходит на Родине. Порой сравниваю с немецкими новостями – конечно, небо и земля!

**– А что сейчас в Германии на первом плане? У нас, как обычно, цены, социалка, задержания последнего времени…**

– Теракты. Это главная тема в Европе.

**– Раньше вы говорили, что чувствуете себя в абсолютной безопасности, а сейчас?**

– Когда мы приехали, тут действительно было спокойно и безопасно. А сейчас некоторое беспокойство, конечно, присутствует. Но так во всей Европе сегодня...

**– Людмила Филипповна, у вас двойное гражданство?**

– Я не отказывалась от белорусского гражданства. У меня два паспорта – белорусский и немецкий.

**– Не так давно минула очередная годовщина смерти Геннадия Карпенко. Ваши белорусские друзья в этот день по-прежнему напоминают о себе, звонят?**

– Валерий Костко, который был соратником Геннадия, помнит все даты. Несмотря на годы и расстояния. Звонил еще один бывший друг Геннадия. Лет 15 он вообще не отзывался, а теперь вдруг позвонил. Даже не знаю, откуда он взял мой телефон. Извинялся, что все эти годы молчал. Говорил, что читал мою статью, в которой я сказала, что все бывшие друзья после смерти мужа от нас отвернулись. Он отнес мои слова и к себе. Ну что мне сегодня на этого человека обижаться? Я понимаю, что каждый думает о себе, о своей собственной безопасности. Но человек хотя бы признался в том, что смалодушничал. Видимо, сидела у него в душе такая заноза, вот и позвонил многие годы спустя. Спасибо за это.

А так звонят в основном, конечно, родные. Тетя Геннадия еще помнит – мы с ней постоянно переписываемся. Она уже в возрасте…

Внучка ходила на кладбище, убирала там, цветы регулярно приносит…

Ну а так… Все меньше и меньше с каждым годом звонков…

**– Время идет. К сожалению, многое забывается. Для многих Карпенко сегодня – далекая история.…**

– Да, время летит... Молодые люди уже, наверное, и не знают, кто такой Геннадий Карпенко. Люди быстро забывают обо всем… Вот сейчас как раз читаю про дело Юрия Захаренко и понимаю, что в Беларуси вообще очень мало говорят об исчезнувших…

Появились новые пострадавшие – я все понимаю…

**– Вы когда-то мне пообещали, что будете писать воспоминания о жизни с Геннадием Дмитриевичем. Мне кажется, они читались бы как красивый роман…**

– Я одно время писала. Вспоминала и как будто заново многие моменты переживала. Но уже почти целый год не садилась. Может, снова возьмусь. Из меня не очень хороший писатель на самом деле получается. Вот захотелось – написала, что-то вспомнила, сердце защемило – снова записала. А как потом все это скомпоновать? Переплетать все это с нынешним временем или оставить просто как воспоминания? И меня все время мучает вопрос: будут ли они кому-то интересны?..

**Марина КОКТЫШ.**

ПРЭС-ТУР

# Зона адчужэння у 60 кіламетрах ад АЭС

Палескі дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнік быў створаны ў 1988 годзе на забруджаных радыяцыяй тэрыторыях Брагінскага, Хойніцкага і Нараўлянскага раёнаў. Яго дырэктар Пётр Кудан родам з гэтых мясцін. Аб трагедыі і яе наступствах ведае не па чутках.

– *За два тыдні да аварыі я стаў кіраўніком гаспадаркі ў Брагінскім раёне,* – распавядае Пётр Міхайлавіч. – *На маіх вачах праводзіліся мерапрыемствы па ліквідацыі наступстваў трагедыі, перасяленні людзей з забруджаных тэрыторый. Сітуацыю ведаю не па кнігах – гэта маё жыццё.*

У запаведнік мы, журналісты прэс-тура, арганізаванага Дэпартаментам па ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, трапляем праз кантрольна-прапускны пункт «Бабчын». Гэта назва вёскі, у якой на момант выбуху пражывала 728 чалавек. Актыўнае адсяленне мясцовых жыхароў, паводле слоў дырэктара запаведніка, пачалося 4 мая 1986 года.

– *Шчыльнасць забруджвання стронцыем менавіта на гэтай тэрыторыі дасягае да 10 кюры на квадратны кіламетр,* – тлумачыць Пётр Кудан. – *А паводле нашага заканадаўства 3 кюры – ужо зона адчужэння. Нягледзячы на тое, што адсюль да атамнай станцыі 60 кіламетраў, нават ускраіна запаведніка ўяўляе пэўную пагрозу для жыхароў і персаналу.*

Перад тым як заехаць углыб 30-кіламетровай зоны адчужэння, пераапранаемся ў пункце ўніверсальнай санітарнай апрацоўкі. У гэтым месцы персанал, перш чым пакінуць межы запаведніка, праходзіць дазіметрычны кантроль і санітарную апрацоўку. Гэта робіцца для таго, каб радыяцыйныя элементы не трапілі за тэрыторыю на вопратцы або аўтамабілях супрацоўнікаў.

– *Каля 50–60 працэнтаў тэрыторыі запаведніка некалькі тысяч гадоў будуць непрыдатныя для жыцця людзей,* – распавядае дырэктар экалагічнага аб’екта. – *Займацца актыўнай гаспадарчай дзейнасцю тут таксама нельга.*

На землях, дзе да красавіка 1986 года ішло звычайнае жыццё, цяпер мноства закінутых і забітых дамоў. На гэтай тэрыторыі староннім асобам знаходзіцца забаронена.

Навукоўцы запаведніка займаюцца не толькі даследаваннямі, звязанымі з уплывам радыеактыўных элементаў на жывыя арганізмы.

– *Нашы супрацоўнікі займаюцца таксама праблемамі тэхналагічнага характару,* – кажа Пётр Кудан. – *Эксперыменты скіраваны на тое, каб даць адказы на пытанне, якая вытворчасць можа быць наладжана насельніцтвам, што пражывае тут, на набліжаных да зоны тэрыторыях. Вывучаем магчымасці атрымання таварнага мёду, вырошчвання садовых культур, а таксама рэдкіх паўднёвых – персікаў і абрыкосаў.*

*На гэтых землях адпрацоўваліся розныя тэхналогіі. Нельга сказаць, што ўсе яны далі станоўчы вынік, але, напрыклад, персік, які, дарэчы, у іншых рэгіёнах Беларусі амаль не вырошчваюць, мае мінімальнае ўтрыманне радыенуклідаў.*

Паводле слоў спецыяліста, адсутнасць людзей спрыяльна паўплывала на жывёльны свет у гэтых месцах. Але пазбегнуць назапашвання радыенуклідаў ім, вядома, не ўдалося.

– *Асабліва высокія ўзроўні радыяцыі ў драпежнікаў,* – тлумачыць Пётр Кудан. – *Усё залежыць ад харчавання: калі дзік пастаянна рыецца ў зямлі, заглынае з рэшткамі ежы мікрачасціцы глебы, то ў яго будзе анамальна высокі ўзровень забруджвання.*

## Гаспадарчая дзейнасць у запаведніку

Сёння на тэрыторыі, не прыдатнай для жыцця, знаходзяцца 92 былыя населеныя пункты. Да аварыі тут працавалі 25 сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і пражывалі 22 тысячы чалавек, якія былі вымушаны пакінуць свае дамы.

– *Асобныя вёскі з анамальнымі ўзроўнямі выпадзення на іх радыяцыйных элементаў былі пахаваны яшчэ ў першыя гады пасля аварыі,* – распавядае Пётр Кудан. – *Ніякай перспектывы для далейшага жыцця ўжо не было. Насельніцтва выязджала з надзеяй вярнуцца праз некаторы час. Але гэтага не адбылося.*

*Пасля ўдакладнення абстаноўкі ў 1993 годзе, калі інфармацыя пайшла ўжо не ад вайскоўцаў, а ад цывільных спецыялістаў, да запаведніка далучылі яшчэ 85 тысяч гектараў забруджаных земляў. Сёння агульная плошча складае 216 тысяч гектараў.*

Тэрыторыя экалагічнага аб’екта падзелена на дзве зоны: абсалютна запаведная з анамальна высокім узроўнем забруджвання і эксперыментальна- гаспадарчая. Апошняя – гэта тая зямля, на якой, паводле разлікаў навукоўцаў, магчыма нейкая дзейнасць. У запаведніку, дарэчы, нарыхтоўваюць драўніну, вырабляюць мёд, вырошчваюць племянных коней.

– *У цэлым на тэрыторыі запаведніка выпала каля 30 працэнтаў цэзію і 70 працэнтаў стронцыю ад усёй колькасці па Беларусі,* – тлумачыць Пётр Міхайлавіч. – *Але найбольш небяспечны элемент – плутоній-241, які пасля перыяду паўраспаду (14,4 года) ператвараецца ў амерыцый-241. Паводле разлікаў навукоўцаў, да 2056 года радыяцыйнае становішча на гэтай тэрыторыі будзе пагаршацца з-за актыўнага ўтварэння амерыцыю-241.*

На тэрыторыі запаведніка таксама знаходзіцца навукова-эксперыментальная станцыя «Масаны». Гэта ўжо не існуючы населены пункт недалёка ад украінскай тэрыторыі. З 35-метровай вышкі бачна Чарнобыльская АЭС.

Менавіта тут навукоўцы гадуюць 15 коней, на якіх адсочваюць уплыў радыяцыі.

Галоўнай задачай дзейнасці запаведніка з’яўляецца прадухіленне пераносу радыенуклідаў за яго тэрыторыю. Супрацоўнікі абавязаны сачыць і ліквідаваць магчымыя пажары, папярэджваць несанкцыянаваны вываз маёмасці і гэтак далей.

– *Зараз патруляваць вялікую тэрыторыю стала лягчэй: дапамагаюць відэакамеры,* – кажа Пётр Кудан. – *Займаемся таксама маніторынгам уздзеяння радыяцыі на жывёльны і раслінны свет.*

Пытанне, якое не маглі не задаць журналісты: наколькі бяспечна займацца гандлёва-гаспадарчай дзейнасцю на закрытых тэрыторыях?

– *Плошча запаведніка 216 тысяч гектараў, з іх 68 тысяч адведзены для эксперыментальна-гаспадарчай дзейнасці,* – сказаў начальнік Дэпартамента па ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Аляксандр Ціток. – *Гэта тая тэрыторыя, на якой можна атрымліваць нарматыўна чыстую прадукцыю. На запаведных землях мы нічога не робім.*

Паводле слоў чыноўніка, ні адзін куб або кілаграм прадукцыі не пакідае межы запаведніка без праверкі. Як тлумачаць прадстаўнікі Палескага запаведніка, існуюць рэспубліканскія дапушчальныя ўзроўні на асобныя віды прадуктаў харчавання, якія патрабуюць абавязковага кантролю ўзроўню ўтрымання стронцыю.

– *У першую чаргу гэта малако,* – тлумачыць Пётр Кудан. – *У запаведніку вытворчасцю гэтага прадукту мы не займаліся і не займаемся. Гэты накірунак не для запаведніка. Але даследаванні спецыялістаў паказалі, што можна займацца племянной конегадоўляй. На пазабюджэтнай дзейнасці ў мінулым годзе запаведнік зарабіў 4 мільярды недэнамінаваных рублёў.*

## Закрытая тэрыторыя

Сёння ў Палескім запаведніку крыху больш за 700 супрацоўнікаў. За працу ў шкодных умовах калектыў мае некаторыя льготы.

– *За працу ў абсалютна забруджанай зоне ідзе надбаўка да заробку (каэфіцыент 1,7),* – сказаў Пётр Кудан. – *Адпачынак складае 44 дні. Пасля напрацоўкі пэўнага стажу (менавіта ў зоне адчужэння) прадугледжаны выхад на пенсію раней. Штогадовае бясплатнае і абавязковае медыцынскае абслугоўванне.*

На сённяшні дзень нямала праблем для супрацоўнікаў запаведніка ствараюць людзі, якія спрабуюць пранікнуць на закрытую тэрыторыю без дазволу.

– *Гэта тэрыторыя, на якой ніхто не адменіць Чарнобыль,* – сказаў «Народнай Волі» начальнік упраўлення рэабілітацыі пацярпелых тэрыторый Дэпартамента па ліквідацыі наступстваў аварыі Дзмітрый Паўлаў. – *Усё тут так і застанецца на сотні гадоў. Але трэба жыць далей і разумець, што за межамі гэтай тэрыторыі таксама ёсць людзі, якія хочуць жыць нармальна. Для гэтага ім трэба забяспечыць усе ўмовы. Адна з умоў: абарона радыяцыйнай бяспекі. Абарона ад пажараў, браканьерскай прадукцыі, якая забруджана і не павінна выйсці за межы запаведніка. Трэба разумець, што знаходзіцца тут небяспечна…*

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
3 МАЯ 2017 г.

БЕЗ РЭТУШЫ



Валерый КАРБАЛЕВІЧ

# Беларускі нацыяналізм зноў стаў ворагам

Міліцыя затрымала мінчука Сяргея Манкевіча, які вывесіў у акне кватэры бел-чырвона-белы сцяг. Намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Рэчыцкага райвыканкама Аляксандр Горбач забараніў выкарыстоўваць на стадыёне сцяг з выявай герба горада Рэчыцы ў выглядзе «Пагоні» на фоне бел-чырвона-белай стужкі.

Не думаю, што міліцыянты ці чыноўнікі атрымалі нейкую адмысловую дырэктыву на гэты конт. Але яны востра адчулі новую палітычную атмасферу. Бо ўся краіна бачыла, як на Дзень Волі ў Мінску амапаўцы хапалі найперш тых, хто быў з бел-чырвона-белым сцягам.

А яшчэ зусім нядаўна нацыянальныя сімвалы былі амаль што легалізаваны. Бел-чырвона-белыя сцягі луналі на стадыёне падчас матча зборнай Беларусі па футболе. Міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч заявіў, што гэты сцяг і «Пагоня» не з'яўляюцца забароненымі сімваламі. Старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька дэманстраваў з тэлеэкрана майку з «Пагоняй». Мэдыі загаварылі пра мяккую беларусізацыю.

Але «Беларуская вясна», вулічныя акцыі пратэсту ўсё рэзка памянялі, пачаліся палітычныя рэпрэсіі. Разам з касметычнай лібералізацыяй закончылася і мяккая беларусізацыя. Беларускія нацыяналісты зноў аб'яўлены галоўнымі ворагамі.

У Беларусі існуе шмат ваенізаваных прарасійскіх арганізацый, якія ладзяць летнікі з маладзёнамі. Але на ролю баевікоў КДБ выбрала беларускіх нацыяналістаў з «Белага легіёна». Бабруйскі клуб «Патрыёт» абвінавацілі ў тым, што там вялося выхаванне «з празмерным нацыяналістычным ухілам», бо размаўлялі ж на беларускай мове. Дзяржаўныя мэдыі, выкрываючы зладзейскае нутро «баевікоў», параўноўваюць беларускі нацыяналізм з нацызмам. І гэта зноў стала, можна сказаць, афіцыйнай ідэалагічнай лініяй улад.

Вось напярэдадні Дня Перамогі ў школы ўсёй краіны сталі прыходзіць лісты ад Таварыства памяці воінаў і ахвяр Вялікай Айчыннай вайны, у якіх беларускі нацыяналізм атаясамліваецца з фашызмам.

У цяперашніх дзеяннях улады ёсць пэўная логіка. Бо лібералізацыя і беларусізацыя ішлі ў адной звязцы. Яны сімвалізавалі пэўнае разняволенне грамадства, давалі нейкую, няхай невялічкую, свабоду грамадзянскай супольнасці. А з іншага боку, усё гэта азначала некаторае дыстанцыянаванне ад Расіі і збліжэнне з Захадам.

Акрамя таго – і, можа, гэта галоўнае, – нацыянальная ідэя з'яўляецца найбольш вядомым у гісторыі сродкам палітычнай мабілізацыі грамадства. Гэта адзін з адказаў на пытанне, чаму Лукашэнка ўсяляк дыстанцуецца ад беларускага нацыяналізму. Не толькі таму, што такая палітычная лінія сапсуе дачыненні з Расіяй.

Справа ў тым, што існы палітычны рэжым трымаецца не столькі на падтрымцы грамадства, колькі на апатыі, раўнадушшы, апалітычнасці, атамізацыі, палітычнай дэмабілізацыі насельніцтва. А яшчэ на страху. А нацыяналізм па самой сваёй прыродзе ёсць сродак мабілізацыі, аб'яднання, палітызацыі соцыуму. Наўрад ці Лукашэнка разумее гэта на ўзроўні тэорыі, ён, хутчэй, адчувае інтуітыўна.

Таму, калі пачаліся маршы "недармаедаў", найбольш выразным сімвалам пратэсту стаў бел-чырвона-белы сцяг. Бо калі насельніцтва незадаволена ўладамі, то яно найперш звяртае ўвагу на яе апанентаў, падсвядома шукае альтэрнатыву. А альтэрнатыву ў Беларусі сімвалізуе нацыянальны сцяг. То бок нацыяналізм стаў механізмам мабілізацыі народнага незадаволення і пратэсту.

Таму з пункту гледзішча самазахавання ўлады аб'яўленне беларускага нацыяналізму ворагам выглядае цалкам лагічным. Думаю, пакуль улады яшчэ самі не вырашылі, у якіх маштабах і ў якім тэмпе будзе ажыццяўляцца гэты адкат. Але трэнд вызначыўся.

(Радыё Свабода.)

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# 15 сутак арышту за тое, што прыйшоў на мітынг з бел-чырвона-белым сцягам

Намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Васіль Палякоў,** затрыманы ў Гомелі пасля мітынгу 1 Мая, асуджаны на 15 сутак арышту. Такое рашэнне прыняла суддзя Савецкага раёна Гомеля **Алена Шайн.**

Працэс праходзіў, можна сказаць, за зачыненымі дзвярыма, на пасяджэнне нікога не пусцілі, нават сына Палякова, якога супрацоўнікі міліцыі выштурхалі ў калідор.

Калі Палякова выводзілі з залы, ён паспеў крыкнуць, што пакараны 15 суткамі арышту паводле двух артыкулаў – 23.4 (непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі) і 23.34 (парушэнне парадку правядзення масавых мерапрыемстваў). «Гэта поўнае бязмежжа і здзек», – пракаментаваў БелаПАН сітуацыю сын палітыка Аляксандр.

Падчас першамайскага мітынгу Васіль Палякоў з бел-чырвона-белым сцягам стаяў за агароджай пляцоўкі, на якой праходзіў дазволены ўладамі мітынг прадстаўнікоў левых. Пасля акцыі да Палякова падышлі супрацоўнікі міліцыі і прапанавалі прайсці з імі ў службовую машыну, ён падпарадкаваўся, сеў у аўтамабіль і быў затрыманы.

**Алена ГЕРМАНОВІЧ, БелаПАН.**

ФАКТ

# Берегитесь, «зайцы»!

Знаете, сколько в Минске курсирует общественного наземного транспорта? Более 2000 единиц.

Несмотря на огромнейшее количество автобусов, троллейбусов, трамваев, «зайцы» очень сильно рискуют получить немалый штраф. Сегодня в контрольно-ревизионной службе насчитывается около 220 человек, а в ближайшее время штат по поимке «зайцев» будет увеличен до 260 сотрудников.

**Зоя ФИЛИМОНОВА.**

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# Юрий БАНДАЖЕВСКИЙ: «Когда человека лишают родины, многие вещи ему уже не нужны»

Накануне очередной годовщины аварии на Чернобыльской АЭС в прессе появляются комментарии известного врача, профессора, экс-ректора Гомельского медуниверситета Юрия Бандажевского.

Где сейчас работает ученый? Как отметил свой 60-летний юбилей? Какими научными разработками занимается? Часто ли бывает на родине?

– Зачем личную жизнь выставлять напоказ? – вопросом на вопрос ответил Юрий Иванович. – Был юбилей и прошел. О себе говорить не буду. Это мой принцип. Говорить, что я страдаю, болею, – делать приятное врагам. Рассказывать о том, чем сейчас занимаюсь, – это другой разговор.

**– Знаю, что вы руководитель киевского координационного аналитического центра «Экология и здоровье». Как давно живете в Украине?**

– Я курирую большой проект Европейской комиссии в Украине по оказанию помощи регионам, пострадавшим от чернобыльской катастрофы. Это программы медицинского обследования и мониторинга, которые предусматривают оценку состояния здоровья детей с принятием соответствующих мер по профилактике заболеваний. Проект серьезный, с бюджетом около 5 миллионов евро. Нигде на постчернобыльском пространстве ничего подобного не проводилось.

**– Поэтому из Литвы вам пришлось переехать в Украину?**

– Много потребовалось времени и сил, пока все наладили. Проект долго организовывался, было непросто. Не хочу себя восхвалять, но деньги в некоторой мере были выделены конкретно под меня, я ответственный со стороны Евросоюза за реализацию этого проекта.

**– Прошло более 10 лет, как вы уехали из страны. Бываете в Беларуси?**

– Нет, я не могу бывать в Беларуси. Такое условие. Конечно, негласное, неофициальное.

**– Почему? Вы, как говорится, свой срок отсидели…**

– Дело не в этом. Дело в моей семье, детях. Они заложники ситуации, поэтому я не совершаю таких движений, чтобы не делать плохо своим близким. Они не хотят уезжать из страны, как бы трудно ни было, хотят жить в Беларуси.

**– Скучаете по родине?**

– Нет. Скучаю – в моей ситуации не подходит. Скорее тоскую по тем местам, в которых я вырос, тоскую по детям. А по режиму, который есть в Беларуси, разве можно скучать? Меня больше раздражает пассивность белорусов, которые согласились с той ситуацией, в которой находятся.

**– Майдан лучше пассивности?**

– Да при чем здесь Майдан?! Почему обязательно надо бастовать, брать в руки камни и бросать во власть?! Есть разные способы протеста. В конце концов существует какая-то ответственность за то, что происходит в стране. Ну нельзя быть такими пассивными! Нельзя чего-то добиться, лежа на земле, даже не сидя на



ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА

*В 1990 году 33-летний профессор Юрий Бандажевский переехал из Гродно в Гомель и возглавил только что открывшийся медицинский институт. Он сразу же занялся изучением воздействия малых доз радиации на организм человека. Ученые вуза во главе с ректором доказали причинно-следственную связь между воздействием радиации на организм человека и возникновением ряда серьезных заболеваний.*

*Однако в 1999 году профессор Бандажевский был арестован, его признали виновным в получении взятки и осудили на 8 лет. Правозащитники объявили Бандажевского политзаключенным, заявив, что настоящей причиной уголовного преследования ученого стала не взятка, а его несогласие с политикой белорусских властей по преодолению последствий аварии на ЧАЭС.*

*В 2005 году Бандажевский был освобожден досрочно-условно и буквально сразу же уехал из страны. Сначала во Францию, потом в Литву.*

диване. Белорусы, на мой взгляд, пребывают в жуткой апатии, безразличии. Я сужу по тому, как они относятся к чернобыльской проблеме. Людей убаюкивают, говорят: живите на пострадавших от аварии территориях, кормитесь с них, все хорошо, – и они соглашаются. А ведь на самом деле это серьезная проблема, связанная со здоровьем людей. Наши исследования, проведенные в Украине, говорят о том, что загрязненные территории не очищаются, появляются новые проблемы – второе, третье пришествие радиоактивных элементов, которые нельзя игнорировать.

**– Недавно в Беларуси была опубликована официальная статистика, что среди тех, кто признан пострадавшими от катастрофы на ЧАЭС, уменьшилась заболеваемость, в том числе и системы кровообращения, меньше стало случаев новообразований…**

– Даже не знаю, как это комментировать…

Вот сейчас идет четвертый год нашего проекта, исследования проводятся в регионах Украины, расположенных рядом с Чернобылем, и мы видим, что, да, количество радионуклидов в организме людей стало меньше по сравнению с теми огромными дозами радиации, которые мы наблюдали в 1990-е годы, но проблемы они приносят очень серьезные.

**– Например?**

– Выявляем тяжелейшие нарушения у детей второго постчернобыльского поколения. То есть это дети тех детей, которые встретились непосредственно с аварией. Но не надо забывать, что эти регионы Украины пострадали и загрязнены были меньше, потому что в апреле 1986 года роза ветров была направлена на Беларусь. Поэтому мне даже странно представить, что сейчас наблюдается в Беларуси!

Я ведь хорошо помню чернобыльских детей. Ветка, Хойники, Брагин. Мы их всех обследовали. И как-то мне, когда я жил в Вильнюсе, позвонил бизнесмен из Беларуси, предложил помощь. Оказалось, что он один из тех обследованных детей, и он сказал страшную вещь: из его одноклассников в живых осталось только несколько девочек, остальные умерли. Но в Беларуси ведь никто уже об этом не говорит! Всё каким-то образом растворилось, никто об этом не знает. Такова политика властей. На мой взгляд, это самый настоящий геноцид.

**– В Украине не так? Там не замалчивается чернобыльская проблема?**

– Если Украина согласилась на такие масштабные исследования, которые организованы в рамках нашего проекта, то, видимо, не замалчивается… Мне голову еще не отрубили, а говорим мы остро.

Каждый год мы обследуем 4 тысячи украинских детей. И вынуждены признать, говоря по-украински, что здоровье у них «погане». Воздействие радиации на организм приводит к серьезным проблемам: поражается центральная нервная система, никуда не исчезла проблема со щитовидкой – до 40 процентов обследуемых детей имеют серьезную патологию щитовидной железы. А разного рода сердечные нарушения (чаще аритмии) выявили почти у 80 процентов обследуемых!

Еще одна серьезная проблема, которая шокировала нас и украинских эндокринологов, – у большинства обследуемых детей мы увидели нарушения обмена веществ, а именно основного цикла – фолиевой кислоты, незаменимого для организма витамина, который курирует обмен аминокислоты метонина и от которого зависит уровень гомоцистеина в организме. Если он превышает допустимый порог, это свидетельствует о том, что у детей через несколько лет могут развиться онкологические заболевания, нарушается свертываемость крови, возникают инфаркты, инсульты.

**– Украинские власти готовы заняться этой проблемой, помочь этим детям?**

– Не могу отвечать за украинские власти. Когда мы начинали проект, реакция украинских властей была позитивная. Хотя средств под исследования они не выделяли. Районная больница, оснащенная почти на 1 миллион евро, другие мероприятия – это все делалось за деньги Евросоюза.

Конечно, хотелось бы большего участия со стороны Украины, но мы понимаем, что страна сейчас переживает тяжелый период, поэтому пытаемся убеждать партнеров из Евросоюза помочь продолжить эту работу. Прежде всего помочь этим детям. Тут в первую очередь важны профилактические меры, необходимо не допускать проникновения в организм даже малых доз радиации, в том числе с пищей.

**– В Беларуси такой проект нереально осуществить?**

– А Беларусь в нем заинтересована?

Беларусь заняла жесткую позицию по отношению ко мне, моим идеям. Меня прессовали, репрессировали, выбросили из страны. И сегодня поддержать Бандажевского – это нелогично. Властям это не нужно. Потом, я же прекрасно понимаю и знаю, что меня преследовали не только белорусские власти, не обошлось без российских спецслужб. Может, не все знают, но изначально меня хотели обвинить в терроризме, свержении государственной власти. На меня был донос, что своей деятельностью я хочу подорвать действующую власть, что оружие и деньги собираются под это. А потом уже, не найдя оружия, о котором писалось в доносе, меня обвинили в получении взятки. До вынесения приговора меня почти все время держали на полу в ИВС. Разборки были серьезные… Поэтому позиция по отношению к Беларуси у меня жесткая.

**– Это чувствуется даже по вашей интонации. Обида засела так глубоко?**

– Обиды нет. На кого обижаться? Горько, что многое можно было сделать, но не сделано. Я специально приехал в Гомель в 1990 году, чтобы заняться проблемой радиации, изучать ее воздействие на организм человека. А у меня забрали все, что можно было забрать: лишили возможности жить в своей стране и работать.

**– Но вы справились. И сейчас занимаетесь любимым вами и значимым для всех делом.**

– Может, кто-то и хотел меня сломать, но я не дал такой возможности. И никому не позволю глумиться над собой, препарировать мой мозг. Я знаю, ради чего я работаю и что делаю. Мне не нужны ни звания, ни титулы, ни какие-то дивиденды. Когда человека лишают родины, многие вещи ему уже не нужны. Самое главное, что у меня есть моя профессия, моя идея помочь людям и я до сих пор стараюсь ее продвигать.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

РЭГІЁН

# Радзільнага дома не будзе

*Дабудоўваць установу аховы здароўя ў Полацку не плануюць.*

Як паведамляла раней «Народная Воля», будаваць радзільны дом у Полацку пачалі яшчэ ў 2012 годзе. На выездзе з горада заклалі падмурак і ўсталявалі палі. Але пазней будоўля была замарожана, а кіраўніцтва Полацка спаслалася на недахоп сродкаў.

Днямі стала вядома, што будаўнічыя работы працягвацца не будуць.

– *У найбліжэйшай будучыні пытанне аднаўлення будаўніцтва радзільні ў Полацку не разглядаецца,* – адказаў намеснік начальніка ўпраўлення аховы здароўя Віцебскага аблвыканкама **Андрэй Андрушкін** на зварот жыхароў Полацка і патлумачыў: – *У сувязі з рэканструкцыяй і адкрыццём у Наваполацку перынатальнага цэнтра другога ўзроўню аказання медыцынскай дапамогі.*

За ўсе гэтыя гады мясцовыя жыхары ўносілі прапанову перапрафіляваць недабудаваны аб'ект, але жадаючых укласці грошы не знайшлося. Сёння наваполацкі радзільны дом абслугоўвае два гарады і бліжэйшыя раёны.

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Паляцеў… з пасады

*Учора быў звольнены настаўнік футбольнага мінскага "Дынама" Сяргей Бароўскі.*

Як паведамілі ў клубе, пакуль выконваць абавязкі галоўнага трэнера будзе **Сяргей Гурэнка**, які, дарэчы, у свой час ужо узначальваў "Дынама" – з 21 жніўня 2009 года па май 2010-га.

А Сяргей Бароўскі адпрацаваў на трэнерскай пасадзе ўсяго каля года. Улічваючы, што за апошні час праз "Дынама" ўжо прайшлі некалькі дзясяткаў галоўных трэнераў, нічога дзіўнага ў гэтым няма. Адметна і тое, што змяняюць іх пераважна ў маі.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Так у нас спакон вякоў абмываюць мерцвякоў

Эканамічны суд Мінска ўзбудзіў справу аб банкруцтве сталічнага завода будаўнічых матэрыялаў. Цікава, што напярэдадні на прадпрыемстве была праведзена мадэрнізацыя…

…І каб было ўсё чэсць па чэсці,
Каб быў, як лялечка, завод,
Мадэрнізацыю правесці
Рашыў урад.
І цэлы год
Станкі вазілі з-за граніцы,
Спускалі еўра і рублі…
Заводам можна ганарыцца –
Яго да ладу давялі!
Затым было і больш цікава,
Адбыўся раптам дрэнны цуд:
Нас агаломшыла заява:
"Завод – банкрут!
Яму – капут!"
– Навошта траціліся сродкі? –
"Пісак" гучалі галасы. –
Бюджэт не безразмерны ўсё-ткі,
Мы зацягнулі паясы.
Ды ўраду я аддам даніну,
Не буду ганіць спадцішка:
Перш чым пакласці ў дамавіну,
У нас абмыюць мерцвяка…

## Караняплод жуём, таму пакуль жывём

Паводле апытанняў, большасць беларусаў можа шукаць сабе новую працу і не адчуваць цяжкасцяў з грашыма толькі два месяцы.

Працуем, здэцца, як валы,
І стомлена ідзём дахаты мы,
Але набытак наш малы,
Чамусь не сталі мы багатымі.
За ўсё жыццё заробак наш
У жмені ўласнае памесціцца,
І за грашовы той багаж
Пражыць мы можам
Аж два месяцы.
Няма з купюрамі панчох…
Яшчэ і беспрацоўе зведалі.
І той, хто зараз цар і бог,
Нас абзывае дармаедамі.
Электарат чамусь нямы
І толькі думае з напругаю:
Ці вінаваты самі мы,
Ці цар і бог,
Што ходзіць з пугаю?
* * *
Пакуль жуём караняплод,
Дык галадуха нас не торкае.
Ды неўзабаве ўвесь народ
У свет, падобна, пойдзе з торбаю.

РЭЗАНАНС

## Партыі дэмакратаў Беларусі быць!

Добры дзень, рэдакцыя!

У газету звяртаюся я, Пётр Коласаў з-пад Гомеля.

Хоць з таго часу, як у "Народнай Волі" з'явіўся артыкул "Не стреляйте в пианиста, он играет как умеет…" вядомага грамадскага дзеяча Аляксандра Ярашука, і мінула некалькі месяцаў, я ўсё ж хачу адгукнуцца на яго.

Аўтар, адзначаючы раздробленасць апазіцыйных сіл, выказвае меркаванне, што кансалідаваць іх можна, сфарміраваўшы Партыю дэмакратаў Беларусі. Пры гэтым не трэба распускаць дзеючыя партыі, рухі, аб'яднанні, якія цалкам могуць увайсці ў новую арганізацыю, не парушыўшы свае структуры. Усё, маўляў, застаецца нязменным. Галоўная мэта стварэння Партыі дэмакратаў Беларусі – аб'яднаць іх у агульнанацыянальную сілу і ўсе намаганні накіраваць на прагрэсіўныя змены ў палітычным, сацыяльным, эканамічным жыцці краіны, на абарону правоў чалавека ад насілля, беззаконня з боку ўлад.

Мяне, як і А.Ярашука, хвалюе сітуацыя, якая склалася ў Беларусі. Паўсюль пануе аўтарытарызм, зніжаецца жыццёвы ўзровень людзей, а эфектыўнасць дзейнасці апазіцыі, лічы, нулявая. У тым, што дэмакратычныя структуры не кансалідуюцца, на мой погляд, вінаваты ў першую чаргу тыя асобы, якія іх ачольваюць. Для іх, бачыце, асабістыя амбіцыі важней за агульнанародныя інтарэсы.

У вышэйназваным артыкуле даюцца аргументаваныя тлумачэнні наконт патэнцыяльных магчымасцяў задуманай Партыі дэмакратаў Беларусі. Канечне, аднаму А.Ярашуку рэалізаваць гэту ідэю не пад сілу. Таму яго павінны падтрымаць усе, хто хоча паспрыяць станоўчым зменам у краіне. Калі будзе створана партыя, кааліцыйная партыя, магчымасці дэмакратаў памножацца, а значыць, на палітычнай арэне з'явіцца абсалютна новая сіла, з якой будуць лічыцца ўлады.

**Пётр КОЛАСАЎ.**

*пас.Цагельня Гомельскага раёна.*

БЛАГОДАРНОСТЬ

## Низкий поклон…

Через вашу газету хочу выразить благодарность заведующей 2-м отделением пульмонологии 6-й Клинической больницы Марии Ивановне Журович, процедурной сестре Алле Николаевне Погосской, старшей медсестре Наталье Станиславовне Урбан и всему коллективу отделения.

В тяжелом состоянии экстренно была доставлена в больницу. Благодаря высокому профессионализму, четко поставленной работе, сердечному отношению ко всем больным без исключения мы поправляем здоровье и возвращаемся домой.

Низкий вам поклон, дорогие врачи и медсестры, и большая благодарность за ваш труд, терпение и понимание пациентов!

**А.Н.МИКЛАШЕВИЧ, пенсионерка, 82 года.**

*Минск.*

ПЕРАПІСКА

# Ад культуры пісьма ў многім залежыць лёс вашага ліста


Здравствуй наша любимая газета "Народная Воля" и все ее издатели

Рэдакцыя штодзень атрымлівае мноства пісем. На жаль, некаторыя з іх не надрукаваны на камп'ютары, а напісаны ад рукі. Што казаць: у аднаго чалавека почырк разборлівы, акуратна выведзены словы, расстаўлены абзацы, а ў другога – адны каракулі, усё зроблена так, што хоць ты бяры мікраскоп і разглядай кожны сказ, кожнае слова пад павелічальным шклом. Вось перад вамі адна скапіраваная старонка пісьма, якое нядаўна прыйшло ў рэдакцыю з Чачэрска Гомельскай вобласці. Вы можаце прачытаць і сказаць, пра што піша аўтар? Калі патраціць шмат часу, то, можа, і ўдалося б нешта зразумець. Але ж у журналістаў "Народнай Волі" на ўліку кожная хвіліна і няма магчымасці "расшыфроўваць" вось такія лісты. А таму, скажам шчыра, яны застаюцца па-за нашай увагай.

Так, пакуль не ў кожнага маецца камп'ютар. Людзям сталага ўзросту цяжка авалодаць сучаснай тэхнікай. Але ж у любым выпадку культура пісьма павінна заставацца на нармальным узроўні. Мы, журналісты, паважаем Вас, шаноўныя аўтары, але ж і Вы паважайце нас, нашу творчую працу. Раім: не маеце магчымасці аддрукаваць тэкст пісьма на камп'ютары, дрэнны, неразборлівы ў Вас почырк – папрасіце дапамагчы родных, сяброў, калег па працы. Ведайце: прыняць адпаведнае рашэнне па Вашым лісце рэдакцыя можа толькі тады, калі ён будзе прачытаны і стане зразумелым яго змест.

**Ніна ЛЯВОНЧЫК, загадчыца рэдакцыі газеты "Народная Воля".**

УСМЕШКА МАСТАКА

# Да Аўстраліі «рукой падаць»

Вытворчасць малака ў Беларусі набліжаецца да аўстралійскага ўзроўню. Пра гэта, як паведамляе выданне Dairy News, заявіў кіраўнік галоўнага ўпраўлення знешнеэканамічных сувязяў Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Аляксей Багданаў, выступаючы на 3-м экспартным форуме «Беларусь малочная».

Аўстралія, дарэчы, адзін з лідараў разам з Індыяй па вытворчасці малака ў свеце. Што тычыцца прагнозаў, то ў Індыі сёлета чакаецца прыбаўка па малаку аж на 72 мільёны тон, а гэта 47% прыросту. На 2-м месцы знаходзіцца Беларусь, дзе чаканы прырост у бягучым годзе складзе 6,9%. На трэцім – Аўстралія (з прыростам у 3,3%). У цэлым жа прагназуемы аб'ём вытворчасці малака ў Беларусі ў 2017 годзе складзе 7,7 мільёна тон, у Аўстраліі – 9,5 мільёна.




Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

ОБРАТНАЯ СВЯЗЬ

## Спасибо за такую публикацию!

Чтобы скоротать медленно текущее в больнице время, купил в киоске «Союзпечати» несколько разных газет, в том числе «Народную Волю» за 14 апреля с.г. Обратил внимание на публикацию «Край счастливых людей» под рубрикой «Норвегия: знакомьтесь!», которая меня приятно удивила и заинтересовала необычными фактами. Все в этой скандинавской стране поучительно. Достойная оплата труда, высокий уровень жизни. Рабочий день начинается с 10 часов утра и к 16 часам уже заканчивается. На образование тратится в три раза больше, чем на оборону, а на здравоохранение – в четыре раза больше. И при этом норвежские военно-воздушные силы охраняют не только границы своей страны, но и пространство Исландии, у которой своей армии нет вообще.

Постоянные читатели «Народной Воли» наверняка также обратили внимание на вышеназванную публикацию, а потому не буду подробно ее пересказывать. Мне остается только выразить огромное спасибо ее автору – Алесю Драбчуку.

**С глубоким уважением – Анатолий ШНЕЙДЕР.**

*г.Толочин.*

**ОТ РЕДАКЦИИ**

Вам, Анатолий Антонович, большое спасибо за внимание к газете! И за то, что Ваше письмо служит нам поводом сделать маленькое уточнение. Чувствуется, ни Вы, ни подавляющее большинство других читателей не заметили, что в панорамный снимок, иллюстрирующий материал, случайно «вмонтирован» флаг другой страны. Один из наших подписчиков это заметил и позвонил в редакцию, за что мы его также благодарим.

БОЛЬ

## Пашкадуйце дзяцей вайны!

Шаноўнае спадарства!

Хацелася б праз "Народную Волю" напомніць кіраўніцтву дзяржавы пра такую катэгорыю грамадзян, як дзеці вайны. Мне не было і трох гадоў, як з'явіліся акупанты. Вось адзін з эпізодаў, які застаўся ў памяці на ўсё жыццё. Тата быў у лесе, мама некуды пайшла, павесіла на дзверы замок, а мы з сястрой, якая была крыху старэйшая за мяне, засталіся ў хаце. Бацькоў доўга не было, мы прагаладаліся і ў чаканні сядзелі ля акна. У гэты час па вуліцы ішоў нямецкі патруль, двое з аўтаматамі, убачылі нас і з крыкам "Юды!" кінуліся ў двор, а ў хату ўвайсці не могуць. Яны выдралі аконную раму, ботамі абламалі падаконнік, улезлі ў пакой і ўбачылі дзвюх спалоханых чарнявенькіх дзяўчынак.

Назаўтра нас паставілі ў двары пад аўтаматамі, пагражаючы расстрэлам. Мама галасіла: "Мы не юды, мы беларусы!" Суседзі сведчылі, што мы мясцовыя, наша сям'я жыве тут не адно пакаленне. Дзякуй Богу, засталіся ў жывых.

Шмат чаго яшчэ помніцца. Нават ворагу не пажадаю таго, што давялося вытрымаць пасля вайны. Голад. Рахіт. У страшэнных умовах фарміравалася костная сістэма. Ці не таму я цяпер інвалід другой групы, перасоўваюся толькі з дапамогай мыліц?

Крыўдна, калі прыйдзеш у паліклініку, паскардзішся на хваробу, а ў адказ чуеш: "А што ж вы, мілачка, хочаце, узрост ваш які?" Ведаю, колькі мне гадоў, але чаму ніхто не хоча зразумець, што мы – дзеці вайны, што на нашу долю выпалі неймаверныя выпрабаванні? Ці ж не таму і такая бядотная старасць?

Улады павінны звярнуць увагу на такую катэгорыю людзей, як я. Ды дзе там! Амаль 30 гадоў адкладвала грошы, як кажуць, на чорны дзень. І ўсе зберажэнні прапалі. Чаму дзяржаве не вярнуць іх хаця б тым, каму ўжо за восемдзясят? Можа, пажыву яшчэ пару гадоў, але перажываю за тое, ці будзе каму і за што пахаваць адзінокую пакутніцу.

Хацелася б, каб у "Народнай Волі" з'явілася маё пісьмо. Можа, прачытае кіраўніцтва краіны і аблегчыць маё жыццё, якое блізіцца да завяршэння.

**Лідзія Нічыпараўна ПАНЬКОЎСКАЯ.**

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

**АД АЎТАРА.** *Добры дзень, шаноўныя супрацоўнікі маёй любімай газеты "Народная Воля"! Чытаю кожны нумар ад коркі да коркі. Веру кожнаму слову. Вырашыла і сама напісаць вам, хоць часу зусім мала, нягледзячы на тое, што на пенсіі: дом, сям'я, унучка і г.д. Мяркую, мой допіс навядзе на роздум многіх чытачоў.*

# Сустрэча ў магазіне насення

Ну вось, слава Богу, дачакаліся вясны. Цяжка нам, пенсіянерам, усю зіму цэлымі днямі сядзець у сваёй душнай панэльнай "шпакоўні". Бяссонніца, павышаны ціск, іншыя балячкі…

Хочацца выйсці ў горад, як кажуць, развеяцца. Вось і я нядаўна вырашыла зрабіць невялічкую экскурсію. Пачала з магазінаў. Чаго ў іх цяпер толькі няма! У маладосці ледзь не ўсё трэба было даставаць па блаце, а сёння ад тавараў, прадуктаў – вочы разбягаюцца. Толькі шкада, грошай няма. Купіш лекі, заплаціш за кватэру і ўжо амаль нічога ад пенсіі і не застаецца. А яшчэ ж трэба нешта есці. А то кран пацёк, прас зламаўся, падарункі родным хочацца зрабіць на дзень нараджэння, на Новы год, Раство, Вялікдзень, 8 Сакавіка. Падарожжы, адпачынак у санаторыях – гэта толькі па тэлевізары.

Каб звесці канцы з канцамі, з надыходам вясны кожны дзень думаю, што сёлета лепш пасадзіць на дачы. Перчыкі яшчэ зімой, у лютым, пасеяла, ужо вунь якія вымахалі!

Атрымала пенсію, паехала ў магазін насення. Людзей шмат, падыходжу да палічак з насеннем кветак. Выбіраю, кладу пакецікі ў кошык. Іду ў аддзел гародніны. Не працiснуцца, з-пад рук выхопліваю апошнія на вітрыне мае любімыя агуркі "Лібела", хоць другіх гатункаў пруд прудзі.

Хачу бліжэй падысці да палічак, але перада мной жанчына. Возьме пакецік, пачытае і кладзе, бярэ наступны, зноў чытае… Я ёй кажу: "Што, не можаце выбраць?" Яна паварочваецца, і… я пазнаю Валю, з якой раней разам працавала ў педагагічнай установе закрытага тыпу. Вельмі ўзрадаваліся адна адной.

– Што, таксама за насеннем прыехала? – пытаюся.

А яна, гляджу, заплакала.

– Валюша, ты чаго, можа, што здарылася?

Мы адышлі ў бок, яна ўсё ніяк не можа супакоіцца.

– Ды не трэба мне ўжо насенне. Прадала я дачу, але па звычцы сюды зайшла, цягне…

Я ведала, як яна любіла сваю дачу. Помню той час, калі яна была маладой і разам з мужам з заробкаў будавалі яе сваімі рукамі. Ды яшчэ дваіх дзяцей у Мінску вучылі ў вышэйшых навучальных установах. Цяжка было. Потым муж памёр. Але яна, ужо будучы на пенсіі, яшчэ доўга даглядала агарод, сад. Дзеці, праўда, дапамагалі.

– Трэба было кватэру прыватызаваць, на першы ўзнос не хапала грошай, больш 20 мільёнаў. Дзе ўзяць? Пенсія маленькая, дзеці жывуць у Мінску, самі ледзь-ледзь трымаюцца, у крэдытах. Вось і прадала дачу. А зараз, асабліва вясной, кожную ноч плачу, сню, што хаджу па сваім садзе.

Валя старэйшая за мяне гады на тры. Не хацела сыходзіць на пенсію, думала яшчэ папрацаваць. Аднак такіх справядлівых, як яна, не зусім любіць начальства. Тым больш што яна працавала справаводам і праз яе рукі праходзілі ўсе ўваходныя і выходныя дакументы… Адным словам, кантракт ёй не працягнулі, адправілі на пенсію. Яна яшчэ доўга шукала хоць якую працу па горадзе, але нічога не знайшла. А на яе месца па знаёмстве ўзялі маладую дзяўчыну, якая пасля БДУ ўжо больш за два гады не магла нідзе ўладкавацца эканамістам.

Я, як магла, супакойвала Валю. Яна была рада са мной сустрэцца. Купіла пакецік насення кветак, сказала, што пасее каля пад'езда.

Я набрала шмат усялякага насення, але, едучы дадому, чамусьці не радавалася, а ўсё думала пра Валю.

Вырашыла з'ездзіць на дачу першы раз пасля зімы, паглядзець, як там што. Ад горада 15 кіламетраў на рэйсавым аўтобусе, які ўжо каля 30 гадоў адпраўляецца ў адзін і той жа час.

Дзень выдаўся сонечны, цёплы. Я прыехала на гарадскі прыпынак, дзе звычайна наш аўтобус спыняецца, па маршруце з вакзала, каб падабраць усіх жадаючых пабываць на дачы. На маё здзіўленне, на гэты раз людзей было шмат. У нашым накірунку два дачныя кааператывы, ды яшчэ прыгарадныя вёскі, цэнтр саўгаса. Стаю, гляджу на дачнікаў і думаю: я ж іх усіх ведаю каля 30 гадоў. Некалі ўсе былі маладыя, а зараз – усе пенсіянеры, ссівелыя, кульгавыя, згорбленыя. У многіх у руках сумкі-каляскі, каб лягчэй было несці нейкі скарб, таму што ад прыпынку аўтобуса да дач яшчэ кіламетры са два трэба ісці пешшу па грунтавой дарозе.

– Хоць бы "гармошку" далі, – чую размову, – а то стаяць цяжка, ногі баляць.

– А ты думаеш, што ў "гармошцы" дык і месца будзе? Вунь самыя хітрыя едуць на вакзал, там купляюць білет і садзяцца. А ты захацела тут…

– А чаму адна, дзе твая палавіна?

– Рашылі да мая па адным ездзіць. Для дваіх атрымліваецца вельмі дарагая дарога. Яшчэ ж не заначуеш. Тут квіткі на тралейбус, там на білет… Адну пенсію дачцэ аддаём, яна адна дваіх дзяцей паднімае. Работы добрай няма, капейкі плацяць. А мужык яе як з'ехаў у Расію на заробкі, дык там і застаўся, другую знайшоў. Я ёй казала, каб не пускала, дык не паслухалася, дом хацелі будаваць, ужо і падмурак паставілі… А зараз сядзіць з дзецьмі ў сваёй "общаге" на дзявятым паверсе.

З-за павароту паказалася "гармошка". Усе неяк прыбадзёрыліся, засяпшаліся бліжэй да дзвярэй аўтобуса. Аднак з трох адчыніліся толькі адны. Натоўп рынуўся туды… Кандуктарка перакрыла ўваход і стала крычаць, каб не ціснулі, ёй цяжка абілечваць. І так па адным ўсе сталі паднімацца ў старэнькі аўтобус. Вельмі марудна і доўга. Калі я ўвайшла, ужо не то што сесці, стаць не было дзе.

Праз некаторы час дабралася да дачы. Абышла яе вакол, усё на месцы. Падышоў сусед. Расказаў свежыя навіны: на нашай вуліцы за зіму памерлі двое – Андрэй, 62 гады, і Соня – 58. Год таму яна пахавала мужа. Я паглядзела на яе невялікую драўляную хатку, і мне падалося, што яна неяк счарнела і сіратліва стаіць у чаканні новых дачнікаў.

**М.Э.ДАВЫДОВІЧ, жыхарка г.Бабруйска.**

Народная Воля

http://www.nv-online.info

3 МАЯ 2017 г.

НЕСТАНДАРТ

# 72-гадовы Яцэк Палкевіч запрашае пераадолець Шаўковы шлях

*А 3–5 мая сусветна вядомы польскі вандроўнік наведае Беларусь.*



Палкевіч – асоба неардынарная. Толькі ўявіце: 40 гадоў ён калясіць па ўсім свеце, прычым наведваe найбольш аддаленыя куткі планеты.

*«У 1975 годзе Яцэк пакарыў Атлантычны акіян. Прычым у вельмі незвычайнай форме – ён плыў з Дакара на выратавальнай шлюпцы, у адзіночку, маючы пры сабе абмежаваны запас вады* і ежы, – расказвае дарадца амбасады Польшчы ў Беларусі **Марцін Вайцяхоўскі**. – *І гэтае 44-дзённае выпрабаванне выкарыстоўвалі даследчыкі НАСА, якія займаюцца праблематыкай ізаляцыі чалавека і межаў чалавечай трываласці. З сярэдзіны 1970-х гадоў Палкевіч кіраваў шматлікімі смелымі экспедыцыямі ў пошуках знікаючых цывілізацый, незвычайных з'яў і людзей. Пракладваў шлях на Барнеа і ў Новую Гвінею. Ён – ветэран Сахары, ён даследаваў самыя аддаленыя куткі Сібіры. Часцей за ўсё перасоўваўся ў стылі падарожнікаў XIX стагоддзя: на вярблюдах, сланах і ў аленевай запрэжцы, пешшу, на кітайскім сампане і індзейскіх пірогах.*

*У 1996 г. навуковая экспедыцыя Палкевіча вызначыла вытокі Амазонкі, паклаўшы канец спрэчкам аб месцы зараджэння самай вялікай ракі свету. Праз 15 гадоў улады Перу ўзвялі манумент у памяць аб адкрыцці».*

Яцэку Палкевічу 72 гады, а ён не перастае здзіўляць. Цяпер вось задумаў пераадолець Новы шаўковы шлях. І мэта яго візіту ў Мінск – прасоўваць свой чарговы праект. «*У час знаходжання ў Мінску Яцэк Палкевіч правядзе сустрэчы ў Міністэрстве замежных спраў і Міністэрстве спорту і турызму, а таксама сустрэнецца з моладдзю, студэнтамі і журналістамі*», – заўважае Марцін Вайцяхоўскі.

А распачнецца экспедыцыя ў бліжэйшы час. Ужо праз некалькі месяцаў калона пазадарожнікаў пад кіраўніцтвам Яцэка Палкевіча адправіцца з Польшчы ў Кітай, маршрут будзе пралягаць у тым ліку і па тэрыторыі Беларусі. Прадоўжыцца экспедыцыя каля 60 дзён, вандроўнікі пераадолеюць звыш 10 тысяч кіламетраў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

**На фота:** ***Яцэк Палкевіч сярод новых сяброў на захадзе Папуа – Новай Гвінеі.***

ПРОЕКТ

## Джакарта не будет столицей Индонезии

Правительство Индонезии планирует перенести столицу страны из Джакарты в другое место. Об этом поведал председатель Совета по планированию национального развития (Bappenas) **Бамбанг Броджонегоро.** По его словам, в настоящее время рассматриваются несколько городов, куда можно перенести столицу. Один из них – город Паланкараая, расположенный в провинции Центральный Калимантан на острове Калимантан.

Одной из причин необходимости перенести столицу является катастрофическая перенаселенность Джакарты. Из-за большого скопления людей и транспорта город постоянно стоит в пробках. Территория острова Ява, на котором расположена нынешняя столица, составляет лишь 7% территории Индонезии. При этом в столице проживает около 60% 245-миллионного населения страны.

Другая причина – географическое расположение Джакарты. Город находится на побережье и в сезон дождей страдает от наводнений.

НУ И НУ!

## Самый старый человек в мире умер в Индонезии в 146 лет

Мужчина-индонезиец, который утверждал, что ему 146 лет, умер в своей деревне в Центральной Яве. Согласно его документам, Содимеджо, также известный под именем Мба Гхото (дедушка Гхото), родился в декабре 1870 года.

При этом в Индонезии официальная регистрация новорожденных началась лишь в 1900 году, и ошибки с годом рождения не редкость. Но, как заявили Би-Би-Си местные власти, документы дедушки Гхото были подлинными.

Когда корреспондент Би-Би-Си встречался с дедушкой Гхото в прошлом году и спросил про его секрет долголетия, тот сказал, что самое главное – это терпение. «Я прожил долгую жизнь, потому что за мной ухаживали люди, которые меня любят», – добавил он.

Мба Гхото до самой смерти был заядлым курильщиком. Он пережил четырех жен, 10 братьев и сестер и всех своих детей.

МЕМУАРЫ

# ЖИЗНЬ Михася Кукобаки



*(Продолжение. Начало в №№29–33.)*

Проводит обход, заходит в палату и ко мне: «Ну, как настроение? Жалоб, претензий нет?» Отвечаю: «Да нет, все нормально». – «И что, ничего тебя не смущает?» Я говорю: «А что меня должно смущать?» – «Ну, решетки на окнах, к примеру». Я в ответ: «Ну а кому же в тюрьме понравится сидеть? Чего вы лишнее спрашиваете?» – «А-а, так это для тебя тюрьма! Это не больница?! Так я тебя отправлю туда, где настоящая тюрьма, откуда ты приехал».

И тут же – распоряжение, и меня снова в подназорку. Правда, без «лечения». Такой он был – человек настроения. Я позже узнал: у него семейные проблемы были, жена у него выпивала, гуляла на стороне. Был весь взвинченный. Если не шизофрения, то психопатия у него стопроцентно была, Такое вот неустойчивое настроение. Ну да Бог с ним!

### Поддержка

В один прекрасный день отношение ко мне резко изменилось. Вызывает меня врач… Вернее, сначала пошли слухи по отделению, что Кукобаке прислали денежный перевод из-за границы. И ко мне пациенты с вопросами, начинают выспрашивать: кто и откуда прислал? Я лишь пожимаю плечами: «Да бросьте вы глупости разные сочинять! Кому это нужно?»

Сразу понял: что-то случилось, и ко мне подсылают для разведки. С расчетом, что как бы я сам пустил слух. Потом начнут допрашивать: «А откуда, мол, чего?» Такая вот хитрость. Но я не подаю виду. Все вопросы игнорирую. Не дождавшись результатов, через несколько дней вызывает меня заведующий отделением Артемьев: «Михаил, ты знаешь, что тебе перевод пришел из-за границы?» – «Да нет, первый раз слышу», – отвечаю. «Неужели ничего не знаешь?» Говорю: «Ну откуда же я могу знать?» – «Скажи, а кто у тебя там, за границей, есть – знакомые, родственники?» – «Да нет у меня никого там». – «Ну как так? Тебе пришел из Швейцарии перевод. Как такое могло быть? Кто это?» Пожимаю плечами: «Да откуда мне знать? Доктор, я человек открытый. Вы это знаете. На всех этапах, везде рассказывал свою биографию, о своих неприятностях. Наверное, кто-то слышал и решил мне помочь. На предметы первой необходимости: на зубную пасту, на мыло прислать что-то. Я иначе не могу это объяснить». Он: «Не хочешь говорить правду. Ну ладно, иди».

После этого все ограничения с меня сняли. К примеру, приходит мне бандероль с конвертами, бумагой – они тут же все отдали. Уже можно и авторучкой пользоваться. Пришли к выводу: бесполезно держать в изоляции, себе же во вред. Потом, чего доброго, Кукобаку придется освобождать, а он будет на всех углах пасквили распространять, как его здесь ущемляли во всем.

В первый же месяц пребывания во Владимире познакомился, установил контакт с московскими диссидентами. Одни из самых значимых – семья Некипелова. А началось с чего знакомство с москвичами? Когда уезжал из Сычевки, меня один политзэк, Юрий Белов, попросил запомнить текст по результатам его комиссии, потом передать по одному адресу в Москве. Я текст вызубрил и по прибытии во Владимир написал тому человеку, попросил его о встрече. Ко мне тут же приехал на свидание один старый «псих» (много лет по психушкам) – Володя Борисов – под видом моего родственника. Позже он эмигрировал в Штаты. Я передал ему послание от Белова и, естественно, дал полную информацию о своих делах. Было воскресенье, начальство отсутствовало, и никто не мешал беседе. Позже, встретившись в Москве с Ниной Комаровой – женой политзэка Виктора Некипелова, Борисов попросил ее поддерживать со мной связь, так как она проживала во Владимирской области в райцентре Камешково. Сам Некипелов еще сидел в лагере по первому сроку.

Потом я стал думать, как освободиться из психушки. Это большая проблема. По советским законам, «невменяемых», да еще с диагнозом «шизофрения», освобождают только под присмотр опекуна из числа родителей или жены (мужа). В моем случае, при отсутствии родственников и жилья, выбраться мало шансов. Обычно подобных пациентов переводят в психинтернат на пожизненное содержание. Естественно, такая перспектива меня не устраивала.

В период, когда врач надеялся «приручить» меня по заданию КГБ, он дал мне свободный выход. То есть я мог по территории больницы ходить где угодно. Выполнял разные поручения: помочь продукты погрузить-привезти, за пределы больницы в бухгалтерию отнести документы. В город с медсестрой по разным делам ездил. Грех было не воспользоваться ситуацией. И я тут же начал осаду женского отделения. Вечерами под окнами с одной, с другой начал знакомиться. Выполнял разные мелкие просьбы: «принеси мне то-то и то-то», «добудь седуксен» и прочее. Все выполнял и успевал.

Смысл моих пожеланий к девушкам был один: «Если поможешь мне, если мать твоя походатайствует об опекунстве, то поженимся». Наконец удалось одну девицу заинтересовать и уговорить. Она убедила свою мать. Та приходит к врачу: «Я согласна оформить на этого человека опекунство и забрать его».

Врач тут же меня закрывает, лишает всяких выходов и прочих льгот. Вызывает: «Ты что ж, Кукобака, делаешь? На свободу захотелось тебе?» – «А кто же, – говорю, – не хочет?» – «Запомни, Кукобака, наши советские законы очень гуманные. И они не могут позволить, чтобы женщина, у которой больная дочь, еще брала опекунство над таким тяжело больным человеком, как ты. Так что даже выбрось это из головы». И ухмыляется злорадно.

Я говорю: «Так что, мне пожизненно здесь сидеть у вас?» – «Ну нет, у нас ведь законы гуманные. Есть опекунские советы. Потом, от твоего поведения многое зависит».

Намек очень понятный. Мол, если полностью не капитулируешь, век тебе свободы не видать. Такая оказалась дилемма. Вскоре освободился Некипелов и приехал, чтобы лично познакомиться и все выяснить. Мы все обсудили и разработали план. Он уговорил свою коллегу-врача. Придумали легенду, что она моя бывшая гражданская жена: «Мы согласны узаконить отношения». Она стала приходить на свидания, пару раз принесла мне передачу. Естественно, врач доложил «куда следует». Женщину вызвали в КГБ и так запугали, что она даже уволилась и уехала к дальним родственникам в Мурманскую область. Цель властей простая: меня полностью изолировать, отгородить от всего. Но времена изменились. Как я позже узнал, в мою поддержку много разных людей выступало. Меня уже невыгодно было держать, себе дороже. В конечном счете позволили Некипелову расписаться, что он берет меня к себе, и 10 мая 1976 года я вышел на свободу.

Судьба у Некипелова сложилась хуже, чем у меня. Врач и поэт, два высших образования. После первого ареста тоже побывал в институте Сербского. Но признать его невменяемым власть не решилась. Так что психушки избежал и даже написал книгу «Институт дураков» о своем опыте пребывания в Сербского. Но повторный арест в 50 лет был роковым. Его судили в 1979-м. Дали семь лет и пять ссылки, а потом еще в тюрьму отправили. Там он стал жаловаться на головные боли. Есть подозрение, что его могли заразить раком. После освобождения выехал с семьей во Францию уже тяжело больным человеком. Умер в 60 лет в парижском госпитале. Рак головного мозга оказался неоперабельным.

После освобождения спокойно налаживать жизнь мне не позволили. Мешали в трудоустройстве под надуманными предлогами. Чтобы получить работу грузчика, приходилось прибегать к разным хитростям, формально нарушая закон. Осенью 1976-го арестовали и заключили в Печерскую психушку в Могилеве. В результате протестов были вынуждены через месяц освободить. Осенью 1977-го снова арест на пару месяцев в ту же психушку. А осенью 1978 года арест и уже свыше 10 лет по тюрьмам и лагерям. Перестройка по воле Михаила Горбачева, по сути, спасла мне жизнь, как и многим другим политзаключенным.

*– А за что в психбольницу?*

**Михась Кукобака:** – А ни за что. Формально – «изменение состояния». Само собой, ни в каких голосованиях, во всех этих мероприятиях я не участвовал. На стене над своей кроватью в общежитии повесил Всеобщую декларацию прав человека. Случайно удалось в Москве купить журнал «Курьер», орган ЮНЕСКО. Там на развороте и был опубликован полный текст этой Декларации.

*– Это было в Беларуси?*

**Михась Кукобака:** – Да, в Бобруйске. Это я описывал. На моем пути встречались разные люди. Были и приличные, относились с пониманием. К примеру, как-то разговорился с одним офицером МВД. Речь зашла о политике, о Солженицыне и его книге «Архипелаг ГУЛАГ». Этот майор и говорит: «Конечно, было бы интересно почитать, будь книга в библиотеке или в свободной продаже». – «Вообще, это не проблема, – отвечаю майору, – могу на недельку одолжить, если вам интересно». Он согласился. Через неделю возвращаюсь за книгой. А он полушепотом спрашивает: «За вами следом никто не шел?» – «Да нет, я человек аккуратный, не бойтесь». Возвращает книгу – и снова вопрос: «Михаил, а вам не приходило в голову, что эту книжку я мог передать в Комитет?» Я говорю: «Вы знаете, я не прокурор, который в каждом человеке видит потенциального преступника. Сам исхожу из презумпции порядочности. А это человеческое качество не зависит от занимаемой должности или политических убеждений. И почему я обязательно должен считать вас непорядочным человеком?» Вот и все. Он промолчал, и мы расстались. Когда меня судили, имя этого майора ни в каком качестве в моем деле не встречалось.

### Белорусский язык – родной

– Очерк "Украденная Родина", датированный 25 марта, это специально к Дню провозглашения БНР?

**Михась Кукобака:** – Да нет, там просто указана дата окончания очерка. Я приехал в Бобруйск где-то в августе 1976 года. Первое неприятное впечатление – в гостиницу не пустили. На вокзале ночевал. Конечно, мне все это интересно было. Я же столько лет не был. А дата 25 марта – это совпадение, это не было запланировано.

*(Продолжение на стр. 6)*

ГОРЯЧАЯ ТОЧКА

## Южная Осетия войдет в состав России?

Вероятность того, что Южная Осетия войдет в состав России, почти стопроцентная, заявил в интервью Русской службе Би-Би-Си **Анатолий Бибилов,** новоизбранный президент отколовшегося от Грузии региона.

Спикер парламента Анатолий Бибилов выиграл президентские выборы в Южной Осетии, набрав около 58% голосов. Ближайший соперник, действующий президент Леонид Тибилов, получил менее 30% голосов.

«Это провокационное действие российской оккупационной силы грубо нарушает суверенитет и территориальную целостность Грузии и является очередной попыткой легитимизации этнических чисток, военной интервенции и оккупации регионов Грузии», – прокомментировали выборы в грузинском МИД.

Южная Осетия объявила о выходе из состава Грузии в начале 1990-х годов. В 2008 году Грузия попыталась восстановить контроль над республикой, независимость которой к тому моменту не была признана никем.

Это привело к вооруженному конфликту, в который вмешалась Россия. По итогам нескольких дней военных действий между сторонами конфликта было подписано соглашение о прекращении огня.

После этого Россия официально признала независимость Южной Осетии. Помимо России независимость Южной Осетии после войны 2008 года признали Венесуэла, Никарагуа и два островных государства Науру и Вануату. Ни одна другая входящая в ООН страна независимость Южной Осетии не признала.

ОПРОС

## Две трети россиян хотят переизбрания Путина в 2018 году

Почти две трети опрошенных «Левада-центром» сказали, что хотели бы переизбрания Владимира Путина на выборах в 2018 году, хотя сам он еще не заявлял о планах баллотироваться. Ранее социологи подсчитали, что почти половина россиян выступает за отставку премьера Дмитрия Медведева.

ЧТОБЫ ПОМНИЛИ...

# В Польше похоронено более 20 миллионов российских и советских солдат...

Министерством иностранных дел Республики Польша издана книга **«Могилы и кладбища русских и советских солдат с XIX и XX века в Польше. Избранные примеры».** В ней – информация и фотографии расположенных в Польше военных кладбищ, где похоронены российские и советские солдаты.

Посол Польши в Беларуси **Конрад Павлик** напоминает: *«Международные и польские нормативно-правовые акты обязывают осуществлять уход за военными захоронениями и кладбищами, несмотря на национальность и вероисповедание погибших. Данный вопрос регулирует Закон Республики Польша от 28 марта 1933 года «О военных захоронениях и кладбищах», а также Женевская конвенция об обращении с военнопленными от 12 августа 1948 года, ратифицированная Польшей 26 ноября 1954 года».*

На территории Польши находится огромное количество военных кладбищ, где похоронены более 20 миллионов солдат разной национальности, разной веры. Например, в Варшаве в районе Мокотов по ул.Жвирки и ул.Вигуры расположено крупнейшее военное кладбище – Кладбище-мемориал воинов Советской Армии. Здесь покоятся 21.468 солдат и офицеров Первого Белорусского фронта, погибших в боях под Радзымином, во время взятия Праги и в боях за Варшаву в 1944-м и в начале 1945 годов. Кладбище было открыто в 1950 году на территории военного аэродрома Форт Мокотов.




*– Здесь расположены огромные барельефы и мемориальные плиты с текстом на польском и русском языках, содержащим данные о количестве жертв, о том, в каких воинских частях они воевали,* – говорит дипломат. – *По обе стороны центральной аллеи расположены могилы самых заслуженных солдат, а в центре возвышается 38-метровый обелиск и две монументальные скульптуры красноармейцев – измученных, раненных, но не сломленных и отважных.*

*Несмотря на периодически появляющуюся в различных СМИ информацию, Польша всегда четко выполняла свои обязательства по защите всех мест памяти. На памятниках имеется полное обозначение или описание принадлежности умерших (двуглавый орел – на памятнике российским солдатам в Лидзбарке Варминском, информация, касающаяся захоронения солдат Красной Армии – на памятнике в Оссове, красные звезды – на памятниках солдатам Красной Армии в Болеславце и Шубине). Такое увековечение памяти воинов не вызывает общественного неприятия, а сущность нашего культурного наследия заключается в почитании памяти павших на поле брани. Сохранение символики, надписей на русском языке и других атрибутов, присущих покоящимся солдатам, для нас важно и естественно.*

